# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 27 (41) 3—9 верасьня 1993 года *Кошт 10 рублёў*

У каго адвага, ў таго й перавага? **ЗАЦЕМКІ ПРА ДЭПУТАТА.**

**КАМУНІЗМА НЯМА,** а ў Маскве ўсё ёсьць. З замежных уражаньняў.

Нават чукчы з нас сьмяюцца. **АПАВЯДАЕ А. БЕЛАКОЗ.**

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## ПАЛОМНІКІ ПАЕДУЦЬ СПЭЦЦЯГНІКОМ

Як стала вядома рэдакцыі «Пагоні», урад Летувы не зьмяніў свайго рашэньня ў адносінах да колькасьці паломнікаў на сустрэчу з Папам Рымскім Янам Паўлам II.

Згодна раней выдзеленай квоце Гарадзенская эпархія атрымала 2 тысячы ўязных візаў, Пінская й Магілёўска-Менская эпархіі — таксама 2 тысячы. Усе паломнікі, якія атрымалі візы, ад 'едуць да Вільні на спэцьцягніку.

Дарэчы, па рашэньню гарадзкіх уладаў Вільні горад пад час знаходжаньня там высокай духоўнай асобы абвешчаны закрытым.

## ЗАМЕЖНЫ НАВАКАІН — У АПТЭКАХ

Нядаўна на адрас аптэчнага складу Горадні прыйшла партыя навакаіну, якую даслала на Гарадзеншчыну адна дабрачынная нямецкая арганізацыя. Навакаін хутка разьмеркавалі па шпіталях і паліклініках горада.

На жаль, гэта аднаразовая дапамога. Але гарадзенскія ўрачы вельмі задаволены, бо ўжо працяглы час, здаралася, не маглі рабіць самыя простыя апэрацыі.

## УЛАСНЫ САМАЛЁТ

Днямі на лётным полі старога аэрапорту Горадні прызямліўся двухмясцовы спартыўны самалёт французкай авіякампаніі. Цікава, што другім пілотам прыляцеўшага самалёта быў гарадзенскі камэрсант Г. С. На запыт кар. «Пагоні» ён прызнаўся, што з маленства захапляўся авіяспортам, але зьдзейсьніць мару змог толькі стаўшы прадпрымальнікам.

Зараз ён зьяўляецца адным з фундатараў прыватнага аэраклюбу Масквы. Менавіта маскоўскія сябры параілі мецъ ўласны паветраны транспарт. Дзякуючы іхнім захадам ён зьездзіў у французкі горад Тулузу, дзе за 10 тысячаў даляраў набыў сабе вінтакрылую «цацку». На жаль, мясцовыя ўлады ня ведаюць, як зарэгістраваць набытак.

**Г. У.**



## Візы ў Летуву

Візавы рэжым з краінамі СНД Летува будзе ўводзіць паступова: з 1 кастрычніка грамадзянам СНД, якія едуць у Летуву, візы будуць прадстаўляцца на мяжы, а з лістапада яны будуць абавязаны атрымоўваць візы ў пасольствах.

**З паведамленьня Эльта.**

*Віленскаму Арцыбіскупу Яго Эксцэленцыі Аўдрусу Енасу Бачкусу ад беларусаў-каталікоў Віленскай арцыбіскупіі*

Ваша Эксцэленцыя, да Вас зьвяртаюцца вернікі горада Вільні й Віленскага краю з вялікаю прозьбаю дапамагчы адрадзіць традыцыю набажэнства у касьцёле на нашай роднай беларускай мове. Гэтая традыцыя была груба перарваная пад час савецкай акупацыі, калі беларускія ксяндзы патрыёты былі рэпрэсаваныя. А калісьці ж у Віленскай арцыбіскупіі служылі дзесяткі беларускіх ксяндзоў, у віленскіх касьцёлах Сьв. Мікалая, Сьв. Яна, Сьв. Міхала адбываліся набажэнствы на беларускай мове, выдаваліся беларуская каталіцкія газэты, часопісы, кнігі.

Сёньня, выяўляючы жаданьне адрадзіць набажэнствы ў касьцёле на беларускай мове, мы просім блаславеньня ў Вашай Эксцэленцыі. Ласкава просім Вашага дазволу адрадзіць беларускую парафію пры касьцёле Сьв. Міхала, паколькі гэта быў апошні беларускі касьцёл, і жывуць людзі, якія памятаюць гэта.

З малітваю і пакораю спадзяемся на станоўчае вырашэньне нашае прозьбы.

## «У якой мове грашым, у той жа мове й спавядацца мусім»

Узгадаўшы пра гэты запавет, віленскія беларусы-каталікі каторы ўжо раз узнавілі захады, каб дамагчыся свайго касьцёла. Нядаўнія сустрэчы з прадстаўнікамі духоўных уладаў выявілі іхнюю прыхільнасьць да гэтай спробы. Цяпер падрыхтаваны зварот да Віленскага арцыбіскупа, зьбіраюцца подпісы. Друкуем тэкст звароту, а таксама паведамляем, што ўсе ахвотныя могуць пад ім падпісацца, далучыўшыся, такім чынам, да віленскай каталіцкай беларускай грамады. Падпісныя лісты можна атрымаць у беларускіх культурных цэнтрах Вільні:

**У Прадстаўніцтве беларусаў Летувы — вул. Раўгіклас, 27, тэл. 26-03-17.**

**У рэдакцыі «Нашай Нівы» — вул. Жыгіманту, 12-2, тэл. 22-41-61.**

**На кафэдры беларусістыкі Віленскага пэдагагічнага унівэрсітэту, тэл. 35-58-01.**

## Будзьма маліцца ў касьцёле

Аргкамітэт каталіцкай грамады паведамляе віленчукам ды пілігрымам з Беларусі, што ў часе побыту ў Летуве Рымскага Папы Яна Паўла II у касьцёле сьв. Мікалая ў Вільні адбудзецца набажэнства на беларускай мове. Запрашаем на яго ў нядзелю 5 верасьня а 17-й гадзіне.



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## У каго адвага, у таго й перавага?

Даўно назіраю за так званай палітычнай дзейнасьцю народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Не буду хаваць: напачатку яркія, запамінальныя, не пазбаўленыя логікі і трывогі за стан спраў у рэспубліцы выступленьні калгаснага старшыні з Магілёўшчыны паставілі і мяне ў шэрагі ягоных прыхільнікаў. Ды й ці толькі мяне!

Хто ўважліва сочыць за работай сэсій Вярхоўнага Савета, выступленьнямі народных дэпутатаў у друку, па радыё і тэлебачаньні, даўно зрабіў для сябе выснову, што А. Лукашэнка мае рацыю, калі гаворыць пра клопаты вёскі, узаемаадносіны сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, бо як ніхто ведае прадмет гутаркі, валодае статыстычнымі дадзенымі. Тут яму і карты ў рукі.

Сьціплы і вытрыманы напачатку старшыня-дэпутат, не пазбаўлены прыроднай сялянскай кемлівасьці і прыроджанай здольнасьці да публічных выступленьняў, з часам выйшаў на пярэднія пазіцыі ў беларускім парлямэнцe. Гэтаму ёсьць некалькі прычын. Напрыклад, сапраўдны боль за крызіс у эканоміцы, які моцна закрануў і калгасна-саўгасную сістэму, прадстаўніком якой зьяўляецца і Аляксандр Рыгоравіч. Па-другое, цяперашні парлямэнт — гэта не сход інтэлектуалаў, і на фоне маўклівай бальшасьці кожны актыўны выступанец зьвяртае на сябе ўвагу. А апэтыт, як вядома, прыходзіць пад час яды.

Вось тут мы і назіраем дзіўную мэтамарфозу з дэпутатам Лукашэнка. Хаця нічога дзіўнага тут няма. Дастаткова прааналізаваць палымяныя прамовы апошняга, скажам, на працягу года. Няўхільны пераход ад эканомікі да палітыкі. Прычым, палітыкі аднабаковай — бязлітаснай крытыкі старшыні Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіча. Адкуль такая нелюбоў да сьпікера парлямэнта? Няўжо толькі за тое, што ў свой час спадар Шушкевіч вызначыў калгасных кіраўнікоў як «чырвоных памешчыкаў»? Колькі было ў друку лаянкі, патрабаваньняў сатысфакцыі, крыўды!...

Аднак не гэта галоўнае. Думаецца, найперш большасьць у Вярхоўным Савеце не ўспрымае Шушкевіча таму, што ён — чалавек не іх кола. Інтэлігент вышэйшага гатунку, прафэсар, член-карэспандэнт Акадэміі Навук Беларусі Станіслаў Станіслававіч аніяк не ўпісваецца ў прызвычаены вобраз кіраўніка дзяржавы нядаўняга часу — напачатку працоўнай біяграфіі аграрніка, затым партыйна-савецкага службоўца, якога прасоўвала наверх сама сістэма, з жорсткім адборам і праверкай на адданасьць найперш тым, хто вылучаў, прапаноўваў кандыдатуру, перасаджваў з габінэта ў габінэт...

Сёньня большасьці дэпутатаў сорамна й няёмка адзін перад другім за непрабачальны крок — выбраньне С. С. Шушкевіча старшынёй Вярхоўнага Савета. Не з добрага жыцьця рабілася гэта. Узгадаем час той: мітынгі, патрабаваньні, выхад людзей на вуліцы, пагроза забастовак. Плюс падзеі ў Расеі, блізкім і далёкім замежжы. Распад Саюза. Адсюль і імкненьне да самазахаваньня, наіўныя захады ў адной асобнай рэспубліцы захаваць стабільнасьць і нязьменлівасьць палітычнга ладу з крыху падфарбаваным фасадам. Была й прынцыповая пазіцыя Народнага фронту. Было й раптоўнае зьнікненьне з палітычнага небасхілу Кампартыі.

Але зараз сітуацыя карэнным чынам зьмянілася. Адбылася перагрупоўка сіл сярод парлямэнтарыяў. Разгубленасьць саступіла месца пераканаьню ў неабходнасьці рэваншу. Ці лепш сказаць, вяртаньню назад, да жорсткага цэнтралізаванага кіраўніцтва народнагаспадарчым комплексам. Зразумела, у рамках аднаўленага Савецкага Саюза.

Эканамічны стан Беларусі катастрафічны. Як заўсёды ў такіх сітуацыях, пачалі шукаць вінаватых. Для гэтай ролі як найлепш падышоў С. С. Шушкевіч. На яго й выраша дэпутацкая большасьць навешаць усіх сабак. Тыя ж самыя вылежанкі-дэпутаты, якія ледзь неаднагалосна ўхвалілі ў свой час Белавежскія пагадненьні, сёньня робяць выгляд нявіннай панны: што вы, што вы, нячысьцік наблытаў, не тую кнопку пад час галасаваньня прымусіў націснуць!

Сёньня, заўважце, па-за крытыкай многіх дэпутатаў знаходзіцца прэм 'ер-міністр Беларусі. Думаеце, гэта выпадкова? Не. Пэўныя сілы зрабілі на яго стаўку як на будучага выратавальніка й вяршыцеля лёсу беларускага народу. Між тым, подпіс спадара Кебіча таксама ёсьць на пагадненьнях, абмеркаваных у Белавежскай пушчы.

Дэпутат Лукашэнка ведае, каго крытыкаваць, каго зрабіць вінаватым у вачах грамадзтва. Лічыць, што людзі — пешкі, вінцікі, якія нічога не бачаць і не разумеюць. Толькі трэба крыху паднацiснуць, жэстам гогалеўскага Вія паказаць на постаць ахвяры, і натоўп сваімі рукамі зьдзейсьніць прысуд, расчысьціць шлях да запаветнай мары пэўнай групе. На жаль, падобнае разьвіцьцё падзей мае працяг.

Наіўна думаць, што апошнія выказваньні Аляксандра Лукашэнкі на адрас С. С. Шушкевіча выпадковыя. Тым больш, пасьля вяртаньня з Масквы, пасьля сустрэчы са знакамітым Русланам Імранавічам. Родныя душы, яны адразу паразумеліся, адзначылі поўнае супадзеньне думак. І вось наш бравы дэпутат ужо зьневажае беларускую мову, нягледзячы на яе дзяржаўнасьць, пасьміхаецца з сувэрэнітэта рэспублікі, як з забаўкі, пацешыліся, маўляў, і выкінем. Ну, былі памылкі, спроба самастойнасьці, то гэта ж ад беднасьці розуму, жарцік. Паплачамся старэйшаму брату ў камізэльку, зразумее, прабачыць, зноў надзеліць вялікай ласкай.

## Шкалярскія клопаты

**Гутарка нашага карэспандэнта С. Вітушкі са спадарыняй Л. Плыгаўкай, кіраўніцай віленскага Таварыства беларускай школы.**



— Нарэшце вырашыўся лёс нашага беларускага аддзяленьня ва Унівэрсітэце. «Пагоня» ўжо паведамляла, што на нашым аддзяленьні былі вырашылі з 'эканоміць — не набіраць чарговую групу студэнтаў. Толькі дзякуючы нашым сябрам-землякам з Нямеччыны, дзякуючы іхнім ахвяраваньням стаў магчымы набор студэнтаў у гэтым годзе. Толькі 30-га чэрвеня мы атрымалі дазвол унівэрсітэцкага сэнату прыймаць дакумэнты ад абітурыентаў і за тры дні сабралі 19 заяваў. А мейсцаў усяго 12, так што сёлета мы мелі сапраўдны конкурс. Да сёмага ліпеня цягнуліся іспыты — амаль усе пасьпяхова іх вытрымалі. У гэтым годзе яны здавалі летувіскую мову паводле сістэмы «залік — незалік», а таксама тэст і суразмоўе па беларускай мове. Улічваліся таксама асобныя адзнакі са школьнага атэстату й сярэдні бал атэстату. Дванаццаць першых ужо залічаны, але і ў астатніх будзе магчымасьць вучыцца — ім трэба заплаціць пэўную суму — 5 месячных заробкаў. Хто хоча вучыцца — знойдзе гэткія грошы.

**— Хто ж яны, вашыя новыя студэнты — прыежджыя ці тутэйшыя?**

— Сёлета яны ўсе віленчукі, толькі адзін хлопец з Магілёва. Ён вучыўся ў Маскве у Літаратурным інстытуце, самастойна вывучаў летувіскую мову.

**— Знача, чалавек прамяняў Маскву на Вільню — добры знак.**

— Так. Астатнія, паўтаруся, усе мясцовыя, толькі цікавае нацыянальнае прадстаўніцтва — вельмі многа абітурыентаў са зьмешаных сем 'яў.

**— Спадарыня Лілея, я вярнуся трохі назад, а як жа вам удалося так хутка, за тры дні, адшукаць сваіх абітурыентаў?**

— Палова з іх была напісаўшы заявы загадзя. Гэта тыя, хто хадзіў да нас на падрыхтоўчыя курсы, а на курсы іх прывялі ў свой час настаўнікі, сябры нашага Таварыства. Іншыя прыйшлі па аб 'явах. Яшчэ раз варта пераканацца, што ня трэба шкадаваць грошай на рэкламу, інакш усе высілкі нашых беларускіх суполак будуць марнавацца.

**— Што ж, пажадаем нашым студэнтам добрай навукі. А што чуваць у малых шкаляроў, як справы з гімназіяй?**





# ВОЙСКА

**Шаноўнае спадарства! 3 чэрвеня г.г. была створана Гарадзенская вабласная філія Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Сёньня ў газэце «Пагоня» мы пачынаем выданьне старонкі вабласной філіі ТБМ.**

**Старонка будзе рыхтавацца ў горадзе Масты. Наш мастоўскі адрас: 231600, г. Масты, райгазэта. Сабасьцяну Аляксею.**

**Мы зьвяртаемся да ўсіх суполак і сяброў ТБМ у Гарадзенскай вобласьці і за яе межамі: прысылайце да нас свае допісы, інфармацыю, літаратурныя творы патрыятычнага кшталту.**

**Рэдакцыйная суполка Гарадзенскай вабласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны.**

# Чукчы, на жаль, сьмяюцца з нас

## АЛЕСЬ БЕЛАКОЗ ПРА ПЕРШЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Вельмі цікава выступіў на зьезьдзе старшыня Рады Таварыства беларусаў Сібіры:

— Родныя людзі! Родныя па духу, па думках. Тут духоўны цьвет нашай нацыі. Мы мусім і павінны шмат зрабіць. Нам трэба адрадзіць Бацькаўшчыну, бо калі не мы, то хто? Пра гэта вы дбаеце тут, а мы там, у Сібіры. Для многіх з Вас гэты зьезд — будні, а для нас — сьвята. Калі мне ўдалося пакупацца ў Нёмне, я апускаўся ў воды нашай славутай ракі, як індус у сьвятыя воды Ганга.

У мяне такое ўражаньне, што дзейнасьць Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь не адпавядае інтарэсам нацыі. Я адчуваю, што ў беларусаў яшчэ ёсьць страх. У мяне ў акадэмгарадку ёсьць знаёмыя чукчы. Адзін з іх пытае, чаму, Антонавіч, трэба вучыць вас, як жыць, чаму вы ў Беларусі стварылі камуністычны заказьнік. Чукчы ведаюць, што камунізму канец. Чаму беларусы гэтага не ведаюць? Цяпер чукчы сьмяюцца з беларусаў і не безпадстаўна. Няўжо вы думаеце, што цывілізаваны сьвет дазволіць сесьці на сваю галаву пачвары камунізму? Баюся, што самыя адсталыя ў палітычным сэнсе краіны сьвету — Беларусь, Куба і Карэя — могуць скласьці палітычны трыумвірат па захаваньні камунізму. Многія камуністы ня любяць беларускай мовы. Спадары камуністы, прыязджайце ў Сібір. У нас многа зямлі, рыбы, золата й ні слова па-беларуску. Мы не патрабуем, як вы тут, каб у Сібіры беларуская мова была дзяржаўнай.

У Вялікім Княстве Літоўскім была кніга хамаў, у якую запісвалі прозьвішчы фальшывых шляхціцаў. Трэба й нам цяпер у Беларусі завесьці кнігу здраднікаў, каб іхняй беларускай здрады роднаму краю саромеліся ўнукі й праўнукі.

Прадстаўнік суполкі беларусаў Бэльгіі сказаў, што Беларусь і Бэльгія маюць шмат падобнага. У гэтых краінах аднолькавая колькасьць насельніцтва. Брусэль — сталіца Эўропы, а Менск — сталіца СНД. Праўда, тэрыторыя Бэльгіі ў сем разоў меншая. У Бэльгіі дзьве дзяржаўныя мовы, на што часта любяць спасылацца дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі. Але ж у Бэльгіі жывуць два карэнныя народы, кожны з якіх займае сваю тэрыторыю. І, вядома ж, кожны этнас на сваёй тэрыторыі карыстаецца сваёй мовай.

■

У першы дзень зьезду пашчасьціла выступіць і мне. Я прапанаваў прадпрымальнікам і іншым ахвярадаўцам сродкаў на правядзеньне зьезду не раскідаць грошы на імпрэзы, дзе звычайна бывае большасьць людзей, не спрыяючых беларушчыне, а даваць сродкі на выданьне патрэбных кніг, пэрыядычнага друку, дапамагаць таленавітым юнакам стаць на шлях прадпрымальніцтва ці фэрмэрства, бо сёньня сярод маёмасных людзей амаль няма беларусаў. Чамусьці і зямля, і прыхватызаваныя вытворчыя магутнасьці належаць не беларусам, а прадстаўнікам іншых нацыянальнасьцяў. Толькі адзінкі этнічных беларусаў маюць сёньня сродкі для пашырэньня прадпрымальніцтва.

Яшчэ я заўважыў, што спадар Кебіч ня хоча пераходзіць на беларускую мову. Я сказаў, што ён дастаткова здольны чалавек, каб успомніць родную мову, але ня хоча карыстацца ёю, бо, відаць, ня мае руска-беларускага слоўніка, які цяпер амаль немагчыма набыць, і дадаў: «Нас у зале каля паўтары тысячы. Давайце складземся па рублю і купім нашаму прэм´еру такі слоўнік».

■

Пасьля прыняцьця дэкларацыяў, заяў, пастаноў адбыліся выбары ў кіруючыя органы, прэс-канфэрэнцыя, а потым усе, хто яшчэ не паехаў дахаты, былі запрошаныя на ўрадавы прыём у рэстаране «Юбілейны».

Мяне зацікавіла тое, што на зьезьдзе беларусаў сьвету амаль кожны ўдзельнік быў мне знаёмы, а вось на прыёме знаёмых сустрэў толькі ў адным радзе. Цікава, хто гэтыя незнаёмыя, адкуль яны набраліся?

Праўда, пабыў я толькі з гадзінку. Атрымаўшы ад Станіслава Шушкевіча візітку, пасьпяшаўся на вакзал, бо білет ужо ляжаў у кішэні, й набліжаўся час ад´езду.

Дахаты ехаў з задаволенасьцю, што сустрэў многіх з тых, з кім быў знаёмы толькі па лістах, што пачуў шмат новага, патрэбнага для адраджэньня роднай Беларусі.

# Патрыётаў з войска звальняюць, інтэрнацыяналісты застаюцца...

Набліжаецца 8 верасьня — дзень, у які ў 1514 годзе адбылася знакамітая бітва пад Воршай і які ўжо стала ўспрымаецца ў асяродку беларускай грамадзкасьці як сьвята Айчыннай вайсковай славы.

Упершыню такое сьвята праводзілася летась у Менску па ініцыятыве Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў (БЗВ) з адначасным прыняцьцем прысягі на вернасьць народу Беларусі вайскоўцамі сапраўднае службы (прынялі прысягу 60 чалавек), а таксама вайскоўцамі запасу й адстаўкі (прынялі звыш 1,5 тыс. чал.).

Сёлета гэтае сьвята будзе адзначацца ў нядзелю, 5 верасьня, ва ўсіх гарадах і мястэчках, дзе дзейнічаюць суполкі БЗВ. У нашым рэгіёне, перш за ўсё, ў Горадні, Лідзе, Слоніме...

Мяркуецца, што пад час сьвята прымуць сымвалічную прысягу на вернасьць Радзіме вайскоўцы запасу, проста грамадзяне — патрыёты Беларусі. Гэта тлумачыцца тым, што і на сёньня пераважная большасьць і былых кадравых вайскоўцаў, і грамадзян Беларусі, што праходзілі тэрміновую службу, знаходзіцца ў запасе «Вооружённых Сил СССР», а калі дакладней, то ў запасе Расейскай Фэдэрацыі, таму што яна зьяўляецца юрыдычным праваперамнікам Савецкага Саюза.

Многія з іх жадаюць неадкладна прыняць прысягу на вернасьць беларускаму народу. Але ў Міністэрстве абароны лічаць, што гэта можна зрабіць тады, калі для абароны краіны ўзьнікае патрэба ў запасьніках. Але ж ці тады трэба разьбірацца, хто будзе нас бараніць, а хто не? Беларускі рабочы й селянін, які сваёй працай утрымлівае зусім немаленькую армію вайсковых пэнсіянераў, павінен ведаць гэта зараз. Да таго ж не сакрэт, што сярод вышэй указаных утрымальцаў ёсьць людзі, якія ня толькі не гатовы бараніць нашу краіну, але й ўвогуле выступаюць супраць незалежнасьці Беларусі, яе дзяржаўнасьці. (Праўда, гэта не замінае ім спраўна атрымліваць пэнсію ад нашай дзяржавы).

Таму прыняцьце прысягі, якое мае адбыцца 5 верасьня 1993 года — глыбока патрыятычны акт людзей, якія хочуць засьведчыць сваю адданасьць Радзіме.

Мяркую, што ў хуткім часе зьмяніцца й думка Міністэрства Абароны.

Прыклад таму мы бачылі летам 1992 г. Яшчэ 23 ліпеня 1992 г. праз газэту «Во славу Родины» міністр абароны П. Казлоўскі даводзіў сваё «однозначное мнение», што «парламент республики принял разумное, взвешенное постановление. Белорусскую военную присягу принимают сегодня молодые солдаты, а также те офицеры, которые оканчивают военные училища. И не надо в этом вопросе нагнетать страсти, идти по пути наших соседей, допуская просчёты и крайности», што прыняцьце прысягі на вернасьць Беларусі вайсковымі часткамі «вопрос не сегодняшнего дня».

Трэба прызнаць, што спадар Казлоўскі слоў на вецер не кідае. Ні на заўтра, ні нават на пасьлязаўтра гэтае пытаньне не стала надзённым. «Вопрос назрел» (П. Козловский «Военная присяга — высший акт верности народу Беларуси».— «Во славу Родины» ад 7.08.92 г.). Праз 6 дзён, 29 ліпеня 1992 г. калегія Міністэрства абароны па прапанове П. Казлоўскага заявіла аб неабходнасьці прыняцьця прысягі ўсім асабовым складам Узброеных Сілаў Рэспублікі Беларусь. Што зьмянілася за 6 дзён і ці была зьвязана гэтая мэтамарфоза ваеннага ведамства з намерам БЗВ правесьці 8 верасьня сьвята Беларускай вайсковай славы з сымвалічным прыняцьцем прысягі, можна толькі здагадвацца.

# Бітва пад Воршай

Зімой з 1513 па 1514 год супраць Вялікага Княства Літоўскага й Кароны Польскай была створана кааліцыя эўрапэйскіх краін: Сьвятой Рымскай імпэрыі, Даніі, Брандэнбурга, Саксоніі, Валахіі, Тэўтонскага ордэна й Масковіі. Хаўрусьнікі пасьля перамогі планавалі аддаць беларускія і украінскія землі ВКЛ Маскве, Польшчу — Вене, Жмудзь — Тэўтонскаму ордэру.

Ударнай сілай прызначана было маскоўскае войска, якому шчодрую падмогу гарматамі, людзьмі, вайсковымі спэцыялістамі аказвалі хаўрусьнікі. Добра падрыхтаваныя войскі маскоўцаў выйшлі ў паход пад лета. 80-тысячнае войска пры 300 гарматах аблажыла Смаленск. Намесьнік смаленскі Юры Салагуб здрадліва здаў горад. Пасьля здачы Смаленска маскоўскія ваяводы кінуліся ўглыб Беларусі. ВКЛ і Польшча змаглі выставіць да 36 тысяч войска, частка якіх засталася з каралём у Барысаве, а астатнія павёў насустрач ворагу гэтман Канстанцін Астрожскі.

На досьвітку 8 верасьня ўся конніца, пяхота й артылерыя Астрожскага былі ўжо перад маскоўскімі палкамі. Гэтман пасьпеў расставіць іх у патрэбным баявым парадку: на правым фланьзе — харугвы конніцы з беларускіх і летувіскіх земляў пад камандаю князя Ю. Радзівіла, на левым — польская конніца на чале з В. Санпалінскім і Я. Сьвярпоўскім, а паміж імі — роты пяхотнікаў з ручніцамі. Уся конніца разьмеркавалася на дзьве лініі. Пад прыкрыцьцё пяхоты была пастаўлена частка гарматаў, астатнія пакінуты ў засадзе, бліжэй да правага крыла.

Грымнулі бубны, затрубілі баявыя сурмы, і маскоўская конніца першай кінулася ў атаку. Войскі Астрожскага без цяжкасьцяў адбілі яе. У бехцеры, без шышака, гэтман гарцаваў наперадзе сваіх вершнікаў на даўганогім дрыжгапце, насіўся, аддаючы кароткія загады, паміж харугвамі. Быццам выпрабоўваючы ворага, ён кінуў на маскоўскія палкі польскую кавалерыю з левага крыла. Ваявода Чэляднін стрымаў іх націск ды зноў ударыў сваёй конніцай. Гэтак да самага поўдня супраціўнікі асьцярожна абменьваліся франтальнымі атакамі, не ўводзячы ў бой галоўныя сілы. Затым маскоўскія ваяводы паспрабавалі паслаць полк у тыл Астрожскаму й адначасова націснуць на фланг, аднак Канстанцін Іванавіч разгадаў гэты нябесьпечны ход, і абедзьве атакі ворага сышлі намарна. Тады бітва дасягнула апагею.

Уськінуўшы булаву, гэтман рашуча павёў у атаку ўсю конніцу Вялікага Княства. Хвіліны — і яна зьлёту цяжка ўрэзалася ў густыя шыхты маскоўскіх ратнікаў. Пачалася лютая сеча. Астрожскі ізноў быў наперадзе, заклікаючы да мужнасьці сваіх вершнікаў. Раптам — замяшаньне ў яго харугвах, незразумелыя крыкі... Націск адразу аслабнуў, а яшчэ праз які момант сам гэтман... вяртаў войска назад. Рэха панесла радасны, пераможны крык тысяч маскоўскіх коньнікаў — «Літва ўцякае!» Вялізнымі сіламі памкнуліся яны за харугвамі Астрожскага.

Калі пагоня на ўсёй хуткасьці падляцела да лесу, гэтман ускінуў булаву, за ім палкоўнікі ўзьнялі свае буздыганы, і «уцекачы» як па камандзе крута павярнулі ў бакі, а маскоўская конніца апынулася — о жах! — перад чорнымі пашчамі гарматаў... Трапныя стрэлы нішчылі ашаломленых ратнікаў, і тыя панічна кінуліся ўцякаць. Цяпер ужо харугвы Астрожскага, разьвярнуўшыся, сыпаліся наўздагон расьсеянаму ворагу. Гэта быў поўны разгром усёй маскоўскай арміі.

Трупамі маскоўскіх ратнікаў былі ўсьцяж засланы палі паміж Воршай і Дуброўнай. Летапісцы лічылі, што пад Воршаю іх загінула ад 30 да 40 тысяч. Шмат хто трапіў у палон, у тым ліку ўсе вышэйшыя камандзіры: Булгакаў — Голіца, Чэляднін, якога дагналі, 8 іншых ваяводаў — разам 48 военачальнікаў, а таксама 1500 дваранаў.

Васіль III уцёк са Смаленску, калі пачуў пра такі вынік бітвы.

Значэньне перамогі пад Воршай было выключным для княства. Распалася варожая кааліцыя, быў абаронены сувэрэнітэт дзяржавы. Акрыялі духам ваяры княства. Перамогу атрымаў праваслаўны князь, што прымусіла прыцішыць на некаторы час езуітаў і іншых праведнікаў каталіцызму. У Вільні былі пабудаваны дзьве новыя праваслаўныя царквы.

# Заходняя Беларусь пад польскай акупацыяй 1920—1939 г.г.

Беларускі народ спрадвеку вызнačаўся талерантнасьцю. З належнай павагаю ставіўся да суседзяў і да суайчыньнікаў іншых нацыянальнасьцяў. У старажытных і пазьнейшых помніках пісьменства не знаходзім сьлядоў пра нацыянальныя або рэлігійныя варожыя адносіны беларусаў да якой-небудзь «чужой» нацыянальнасьці альбо веры.

На жаль, ня ўсе нашы суседзі належна ўспрымалі дабрату й спагадлівасьць беларусаў. Аўтар ня мае намеру чыніць закіды якой-небудзь нацыі, народу. Народ — гэта заўсёды народ, яму патрэбны мір і праца, добрасуседзкія адносіны з кожным чалавекам і кожным іншым народам. Аднак сярод многіх нацыяў знаходзіцца тонкая праслойка шавіністаў, якая стараецца абдурваць свой народ (і ня толькі свой), каб фальшывымі лозунгамі распаліць нездаровыя інстынкты, а пасьля, разыгрываючы псіхалёгію натоўпу, захапіць уладу ў свае рукі. У выніку большая ці меншая група палітычных ашуканцаў стварае дыктатарскую сістэму кіраўніцтва і тэрорам змушае людзей падпарадкавацца інтарэсам гэтай групы.

Такім спосабам была захоплена ўлада ў Італіі — фашыстоўскай партыяй (Мусаліні); у Нямеччыне — нацыянал-сацыялістычнай партыяй (Гітлер), у Расейскай імпэрыі — камуністычнай партыяй (Джугашвілі) і г. д...

Як вядома, у супольнай дзяржаве беларускага й польскага народаў (разам з украінцамі й жмудзінамі) быў ухвалены прынцып: у выпадку зьнешняй агрэсіі мы будзем супольна змагацца «За вольнасьць нашу й вашу». Гісторыя паказала, што беларусы сьвята шанавалі гэты прынцып, успомнім хоць бы Грунвальд, Монтэ-Касіно, Варшаву, дзейнасьць Касьцюшкі, Каліноўскага. На жаль, пад націскам шавіністычнай польскай праслойкі іншую пазіцыю адносна беларусаў заняла Польшча. Ідэя экспансіі на Беларусь стала больш прывабнай для ўладаў Польшчы, чым справядлівасьць і шматгадовае сяброўства.

Асабліва брыдкую ролю ў гэтым іграла і грае польскае духавенства. Узгадняўшы «пазіцыі» з варшаўскім урадам, высокаадукаваныя біскупы Польшчы і ксяндзы парушылі хрысьціянскі закон ПРАЎДЫ і СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ. Дасканальна ведаючы, што значная частка насельніцтва Беларусі — каталікі, польскае каталіцкае духавенства, падыходзячы да беларуса, пыталася:

— Ты, каталік, ходзіш у касьцёл?

— Хаджу ў касьцёл,— гаварыў беларус.

— Значыць, ты паляк! Польскай веры!

І малапісьменныя беларускія селянін (а часта й зусім неадукаваны) змушаны быў прымаць словы душпастыра за праўду. Яму не мясьцілася ў галаве, што творыцца масавае ашуканства. Што з касьцельнага амвона сам «намесьнік Езуса Хрыстуса» гаворыць няпраўду... Калі ня верыць духоўнаму айцу (у пышных залачоных і срэбраных арнатах) і яго сьвятому крыжу, то каму ж тады верыць?...

Ня гледзячы на вялікі маральны й палітычны націск польскага духавенства і афіцыйнай сьвецкай улады, ня ўсе беларусы-каталікі выракліся роднага народу. Калі ім даказвалі, што «ты паляк» альбо «ты рускі» (бо ходзіш маліцца ў царкву), то гвалтаваны беларус бараніўся:

— Я не паляк і ня рускі!... Я — тутэйшы.

Тутэйшых набралася на тэрыторыі Заходняй Беларусі некалькі дзесяткаў тысяч (толькі на Віленшчыне звыш дзесяці тысяч).

Як жа, аднак, разьвіваліся ўзаемаадносіны беларусаў і палякаў на працягу польскай акупацыі да 1939 года?

Начальнік польскай арміі і польскай дзяржавы Язэп Пілсудзкі ў адозве да жыхароў самага Вялікага Княства 22 красавіка 1919 г. сказаў:

— «Стан бязупыннай няволі, які я, радзіўшыся на гэтай нешчасьлівай зямельцы, добра ведаю, павінен нарэшце быць зьніштожаны і ў гэтай, быццам, праз Бога забытай старонцы павінна запанаваць свабода...

... хачу вам даць магчымасьць разьвязаць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы гэтак, як самі таго захочаце, бяз ніякага гвалту або націску з боку Польшчы».

Так абяцаў галоўны кіраўнік польскай дзяржавы — маршал Язэп (Юзэф) Пілсудзкі. Беларусы паверылі (хоць ня ўсе). На пачатку сапраўды існавала нейкае супрацоўніцтва. У Варшаве і Горадні арганізаваліся беларускія батальёны і палкі. У занятых палякамі рэгіёнах прадаўжалі працаваць сотні беларускіх школ, існавала беларуская прэса і г. д. У Беластоку й Вільні паўсталі сярэднія беларускія школы, усьлед за тым — і ў Навагрудку, Клецку, Радашкавічах. Дзейнічалі беларускія арганізацыі і інш...

Хутка, аднак, адносіны да адраджэнцкага руху беларусаў сталі рэзка мяняцца. Перш за ўсё была зроблена вялікая крыўда сялянству. Урад замест патрэбнай зямельнай рэформы (як, напрыклад, у Латвіі, дзе абшарнікам пакінулі 30 га зямлі, а рэшту перадалі беззямельным і малазямельным сялянам), значныя арэалы зямлі перадаў асадніка-палякам (былым легіянэрам). Гэта, зразумела, стала прычынай многіх антыпольскіх выступленьняў, варожасьці беднай часткі беларускага сялянства да польскіх уладаў.

Пачалася бескампрамісная ліквідацыя беларускага школьніцтва. З трохсот беларускіх школ ужо ў дваццатыя гады засталося толькі некалькі (чатыры гімназіі і сэмінарыя). Пра вышэйшыя беларускія навучальныя ўстановы і гутаркі не магло быць. А ў трыццатыя гады ўцалела толькі адна беларуская школа — Віленская Беларуская Гімназія... І яна мелася ліквідавацца, ды пачалася вайна 1939-га году.

Ліквідаваліся сістэматычна ўсе беларускія арганізацыі: інстытут Гаспадаркі і культуры, Таварыства Беларускай Школы, Беларускі Банк, Каапэратыўныя арганізацыі, беларускія выдавецтвы і г. д.

Прасьледавалася ня толькі беларускае праваслаўнае духавенства, але й каталіцкае, вуніяцкае. Ксёндз др. Кулак, кс. Адам Станкевіч, кс. Цікота, кс. Стэповіч, кс. Гадлеўскі, кс. Глякоўскі і іншыя безперапынна прасьледаваліся, перасылаліся ў польскія парафіі альбо зусім заставаліся без прыходаў. Калі хоць малая частка беларусаў-каталікоў мела магчымасьць маліцца на роднай мове пры кіраўніцтве біскупа Матулевіча, то наступнік яго — яры шавініст біскуп Яблжыкоўскі — распачаў і давёў да канца поўную ліквідацыю беларускай мовы ў касьцёлах. Зразумела, гэта таксама ня выклікала сімпатыі беларусаў да акупацыйнай улады.

Побач са школьніцтвам першымі былі зьліквідаваны вайсковыя беларускія фармаваньні. Частка афіцэраў атрымала пэнсіі. Радавыя вайскоўцы — пераведзены ў польскія фармацыі альбо звольнены.

Трагічна выкарчоўваўся беларускі палітычны рух. Пакрыўджаная сялянская бедната, а таксама гарадзкія рабочыя, якія трымаліся роднай мовы і звычаяў, апынуўшыся на самай нізкай ступені грамадзтва, былі падатнай глебай для бальшавіцкай агітацыі. Перасыланыя з усходу агітатары паўсюдна вялі тайную прапаганду, якой народ ахвотна верыў. І калі перадавыя беларускія дзеячы арганізавалі Работніцка-Сялянскую Грамаду, у праграме якой асноўнымі дамаганьнямі было: даць сялянам зямлю бяз выкупу; устанавіць дэмакратычнае кіраўніцтва; адкрыць беларускія школы і ўстановы — людзі масава сталі запісвацца ў гэтую арганізацыю. Не мінула году, як Грамада налічвала больш ста тысяч сяброў. Калі ўлады не давалі ходу легальнай беларускай прэсе,— шырока распаўсюджвалася роднага роду нелегальная літаратура. Ажывіліся кантакты з Усходняй Беларусьсю. Умела праведзеныя выбары стварылі магчымасьць арганізаваць моцны пасольскі клюб у Сойме. Некалькі беларусаў было і ў Сэнаце. Зьявіліся выдатныя дзеячы, беларускія правадыры — Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Валошын, каторыя трымаліся левага напрамку, зьбліжанага да камуністаў.

Паслы — Васіль Рагуля, Фабіян Ярэміч, Павал Каруза — прапанавалі больш памяркоўны курс рэформаў. Аднак пасольская група была спаянай, заўсёды дзейнічала сумесна, і яе дзейнасьць, якую часта падтрымлівалі левыя польскія партыі, стварала сур'ёзную апазіцыйную сілу. Асабліва тады, калі выступалі сумесна ўкраінцы ды іншыя нацыянальныя лідэры.

Пілсудзкі, які ў тыя гады прадаўжаў кіраваць дзяржавай, спалохаўся масавага ўсенароднага руху беларусаў. Канфлікт узмацняўся тым, што маршал не навязваў асабістых кантактаў з беларусамі, і часта шавіністы падсоўвалі яму дэзінфармацыю.

(Працяг будзе.).



Лагер скаутаў. Фота А. МАКАРАВА.

### На сваім месцы

На фасадзе Дома Саветаў у Мастах заняў сваё пачэснае месца дзяржаўны гэрб нашай краіны. На будынку ўжо даўно лунае бел-чырвона-белы сьцяг. І варта дадаць, што рабочая мова райсавета, і гарадзкога, і пасялковых — беларуская.

### Старонка ТБМ у раённай газэце

У Мастоўскай раённай газэце «Зара над Нёманам» 23 чэрвеня 1993 года зьмешчаны першы выпуск клуба сяброў беларускай мовы і культуры пад назвай «Альбаросіка». Выпуск падрыхтаваны з дапамогай раённай рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. У ім распавядаецца аб беларусах, колькі іх і дзе жыве па цэлым сьвеце, зьмешчаны выказваньні пра мову вядомых людзей, народныя жарты і інш.

### Памяці паэта

Нядаўна споўнілася 90 гадоў з дня нараджэньня і 60 гадоў з дня сьмерці Міхася Явара (Міхал Карась), які паходзіць з вёскі Мінявічы, што на Мастоўшчыне. З гэтае нагоды на магіле паэта ў вёсцы Падборны адбылося ўшанаваньне памяці слаўнага земляка. Арганізаваў імпрэзу дырэктар Гудзевіцкага літаратурна-краязнаўчага музея Алесь Белакоз.

**А. САБАСЬЦЯН.**

Прызнаўшы тое, аб чым Беларусь згуртаваньне вайскоўцаў гаварыла паўгады да таго, Міністэрства абароны не ўтрымалася ад ісьтэрычнай антыпатрыятычнай, антыбеларускай кампаніі. Дзейнічала яно (і зараз дзейнічае) ня толькі словам, але й «делом». З васьмі вайскоўцаў кадравай службы, што прымалі прысягу непасрэдна на памосьце, чацьвёра былі звольнены на працягу паўгада, а астатнія знаходзяцца на мяжы звальненьня. Ды і ўвогуле з войска звольнена большасьць з тых, хто хоць калі выказаў сваю прыхільнасьць да беларускасьці.

Сёньня, напярэдадні сьвяткаваньня славутай Аршанскай бітвы, хочацца спадзявацца, што й пытаньне з прынясеньнем прысягі запасьнікамі «назрэе» раней, чым наша дзяржава, не дай божа, будзе ў небясьпецы.

Таксама хочацца спадзявацца й на тое, што ў Міністэрства абароны на гэты раз хопіць розуму й элемэнтарнага пачуцьця павагі да беларускага народу й яго гісторыі, каб калі не падтрымаць, то хаця б не перашкаджаць правядзеньню сьвята.

**Міхась ВАРАНЕЦ, маёр запасу, сябра Каардыцыйнай Рады БЗВ,**

**г. Слонім.**

■

5 верасьня БНФ, БЗВ і іншыя патрыятычныя сілы Беларусі ладзяць фэст Беларускай вайсковай славы. Але Міністэрства абароны не жадае слухаць і ўпарта працягвае ідэю сьвяткаваньня 23 лютага. Нас прымушаюць сьвяткаваць дзень Чырвонай Арміі, арміі, якая душыла выступленьні віцебскіх, гомельскіх, рагачоўскіх сялян, якая пад корань выразала ўдзельнікаў Слуцкага збройнага чыну, арміі, якая забясьпечыла разьдзел нашай Бацькаўшчыны ў 20-м, адрыў ад Беларусі векавечных нашых земляў Смаленшчыны, Браншчыны, Віленшчыны, Беласточчыны, арміі, на штыках якой 70 год трымаўся камуністычны рэжым...

Сёньняшнія беларускія ўлады не прызнаюць 8 верасьня, як не прызнавалі й 25 сакавіка. Але час ідзе. Мяняюцца і ўлады, і міністры. Народ вечны, нязьменная яго гісторыя, а значыцца, гадавіна бітвы пад Воршай усё адно стане сьвятам усенародным.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

